Народная Воля http://www.nv-online.info
14 САКАВІКА 2017 г.

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!




## Ігар Мельнікаў запрашае…

*Вядомы беларускі гісторык у мінскай “Акадэмкнізе” ладзіць сустрэчу з чытачамі, падчас якой адбудзецца аўтограф-сесія.*

У сталічнай кнігарні можна набыць новую кнігу Мельнікава “Забытыя героі”, якая прысвечана малавядомым старонкам вайсковай гісторыі Беларусі, у прыватнасці, у ёй расказваецца пра службу беларусаў у Другім польскім корпусе і Першай польскай асобнай паветрана-дэсантнай брыгадзе падчас Другой сусветнай вайны. Кніга багата ілюстравана ўнікальнымі фотаздымкамі з прыватнага архіва Ігара Мельнікава, а таксама ў ёй упершыню ў Беларусі змешчаны каляровыя здымкі ўніформы, у якой беларускія андэрсаўцы і дэсантнікі змагаліся з нацыстамі ў 1944 годзе ў Італіі і Галандыі. Дарэчы, такой калекцыі ўніформы Другой сусветнай вайны, як у аўтара кнігі, могуць пазайздросціць шматлікія беларускія і нават замежныя музеі… Вялікая ўвага ў кнізе нададзена пытанням узбраення гэтых вайсковых фарміраванняў.

Наклад “Забытых герояў” – усяго 300 асобнікаў. Кніга ўбачыла свет пры дапамозе амбасадара ФРГ у Беларусі Петэра Дэтмара. Менавіта апошнія асобнікі гэтай кнігі і можна будзе набыць падчас аўтограф-сесіі, якая адбудзецца **17 сакавіка 2017 года а 17-й гадзіне** ў сталічнай кнігарні “Акадэмкніга”, а таксама задаць пытанні аўтару кнігі, кандыдату гістарычных навук Ігару Мельнікаву.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ТУРИЗМ

## Спрос на отдых в Греции у белорусов выше, чем у россиян?

Недавно представители известной туристической компании TEZ TOUR удивили своим заявлением: мол, продажи путевок в Грецию не подтверждают бытующего мнения об остром кризисе, который переживает белорусский рынок. «*У нас третий год подряд рост*, – заявил директор TEZ TOUR Греция **Димитрис Харитидис.** – *Это касается продажи туров, а также расходов на экскурсии. Если анализировать, то по расходам на экскурсионные путешествия на первом месте у нас находятся украинские туристы, затем – белорусы, третью строчку занимают российские путешественники*». Также, по словам Харитидиса, белорусы уже начали бронировать путевки в Грецию: раннее бронирование греческого направления выросло на 100% по сравнению с аналогичным периодом прошлого года.

Значит ли это, что кризис кризисом, а белорусы действительно готовы в этом сезоне провести отпуск на заграничных курортах? С таким вопросом мы обратились к эксперту туристического рынка страны **Лилии Кобзик**.

– Пока рано делать выводы, – говорит эксперт. – Сейчас идет бронирование очень дорогих отелей. Покупая такие туры, сегодня можно сэкономить до 50 процентов. Клиенты, которые тратят достаточно много денег на отдых, всегда чувствуют себя спокойно. А вот средний класс, массовый туризм… Два предыдущих сезона для белорусских туроператоров были сложные, спрос на отдых за границей существенно упал. Изменится ли ситуация сейчас, можно будет судить в апреле, после весенней туристической выставки. Но один очень крупный оператор заявил недавно, что в день в их офисах бронируется около 100 путевок в Турцию и они этому рады, хотя до 2014 года это были тысячи бронирований в день. В этом сезоне белорусам предлагается отдых в Албании, на Северном Кипре, где цены приблизительно как в Болгарии, но это Адриатическое море. Туроператоры за счет таких новых предложений надеются, что спрос на отдых за границей у белорусов возрастет.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

АФІША

## Не толькі паслухаць, але і пагаварыць…

*Лідар **Brutto** Сяргей Міхалок рыхтуе творчы вечар з акустычным выступленнем і адказам на пытанні з залы.*



Выступленне артыста з праграмай **“Зорачкі”** адбудзецца 8 ліпеня на хутары “**Шаблі**” ў фармаце творчай сустрэчы, з вершамі і аповедамі, песнямі **“Ляпісаў”** і **Brutto** пад гітару, а таксама з адказам на пытанні ад публікі. Квіткі ўжо ёсць у продажы.

Разам з Міхалком на сцэну выйдуць музыканты **Brutto** – **Павел Траццяк** і **Лэфт**!

Першыя падобныя акустычныя выступленні артыста прайшлі ва Украіне. І, напрыклад, квіткі на канцэрт у Кіеве былі цалкам прададзены за 54 хвіліны.

Першая партыя білетаў на беларускі канцэрт паступіла ў продаж 13 сакавіка.

БАЛЬШАВІЦКІ ТЭРОР

## «…Ноччу па яго прыедуць»



Паважаная рэдакцыя!

Я ваш адданы чытач з першых дзён выхаду ў свет “Народнай Волі”. Пішу з болем у сэрцы і з вялікай надзеяй, што нарэшце будзе аддадзена належная павага тым, хто быў рэпрэсаваны ў крывавым 1937 годзе. Я – дачка і пляменніца тых, каго несправядліва той далёкай восеньскай ноччу арыштавалі. За што? Адказу няма і па сённяшні дзень. Вось чаму “Зварот да грамадзян Рэспублікі Беларусь і беларусаў усяго свету” (“НВ”, 24 студзеня 2017 г.) напоўніў маё сэрца цяжкімі ўспамінамі, болем і – надзеяй.

Мой тата, Іван Леанардавіч Звяровіч, нарадзіўся на хутары каля вёскі Азярніца Слонімскага павета. Бацька яго, дробны шляхціц, меў добрую валоку зямлі, якая забяспечвала дабрабыт. А яшчэ, як чэсны чалавек і добры гаспадар, умела правіў маёнткам, уласнік якога пасля заканчэння Пецярбургскага ляснога інстытута (былі чуткі, што ён удзельнічаў у паўстанні Каліноўскага) з’ехаў на Урал у горад Ірбіт. Шкада, што не помню прозвішча гаспадара маёнтка. Дзядуля Леанард дасылаў яму звесткі пра стан гаспадаркі, якія даваў яго сын Іван, пераводзіў грошы.

Іван Леанардавіч вучыўся ў Слонімскім гарадскім вучылішчы, пасля заканчэння працаваў дарэктарам – вучыў сялянскіх дзяцей, шчодра аддаючы ім свае веды. А іх у таты было нямала. Сам многа ведаў, а яшчэ, калі кватараваў у ксяндза, карыстаўся ягонай вялікай бібліятэкай. На татава духоўнае жыццё ксёндз меў вельмі вялікі ўплыў. Гэты адукаваны чалавек прывіў тату цікавасць да ведаў і мастацтва. Яны разам хадзілі ў Слонімскі тэатр. Шмат размаўлялі на розныя тэмы.

Жыццё таты змянілася з прыездам гаспадара маёнтка. Пасля некалькіх сустрэч з Іванам той сказаў дзядулю, што можа забраць хлопца з сабою ў Ірбіт. Там ён будзе працаваць пісарам (у таты быў прыгожы каліграфічны почырк) і будзе вучыцца ў адной з лепшых на той час вышэйшых устаноў – сельскагаспадарчым вучылішчы. А вучыліся там тады за дзяржаўны кошт. Дзе ж тут адмовішся! І пятнаццацігадовы юнак, які далей Слоніма нідзе не быў, паехаў амаль праз усю Расію на Урал. Ірбіт быў у той час вялікі і знакавы горад. Штогод у Расіі праходзілі ўсерасійскія кірмашы – у Ніжнім Ноўгарадзе і ў Ірбіце.

За гады вучобы тата стаў выдатным спецыялістам па ўсіх галінах сельскай гаспадаркі: жывёлагадоўлі, пчалярстве, земляробстве, садаводстве. Сумяшчэнне тэорыі і практыкі (вучылішча мела вялікую гаспадарку, а таксама палеткі, сенажаці, дзе працавалі навучэнцы, за што ім плацілі) давала добрыя вынікі. А за гэта вельмі славіліся навучэнцы.

Пасля заканчэння вучылішча тата па запрашэнні Самарскай губернскай земскай управы паехаў працаваць аграномам. У цягніку на Самару ён пазнаёміўся з братам Валяр’яна Куйбышава. Сялянскі хлопец быў цікавы субяседнік: добры знаўца класічнай літаратуры, рускіх рамансаў, польскіх прымавак.

Самара – губернскі горад. Гастролі Фёдара Шаляпіна, Леаніда Собінава і іншых для таты былі вельмі цікавыя. Запомніўся яму малады Уладзімір Маякоўскі.

Пасля кастрычніка 1917 года тата працаваў на гэтай жа ніве. Прыйшла новая ўлада. Але і пры ёй трэба было, каб рос хлеб, здаровай была жывёла. У 1920 годзе, мабыць, пад уплывам Валяр’яна Куйбышава, тата ўступіў у партыю бальшавікоў – тата рабіў тое, да чаго ляжала душа.

Буйныя ўласныя гаспадаркі сталі саўгасамі, трэба падбіраць кіраўнікоў, вучыць іх, дапамагаць.

Страшэнным выпрабаваннем стала засуха 1920-х гадоў. Можна сказаць, ні кроплі дажджу не выпала за тры гады на зямельку. Цэлыя сёлы павыміралі ад голаду.

Па даручэнні Саўнаркама мой тата арганізаваў выратаванне арлоўскіх рысакоў. Арганізаваць спецыяльны цягнік, адабраць конюхаў, сфарміраваць конскі табун, забяспечыць корм – гэта было няпроста: усё адбывалася пасля грамадзянскай вайны.

Больш за месяц цяжкай дарогі. І вось нарэшце Мінск, дамова з уладай, новая гаспадарка – былы маёнтак Новы Двор, дзе добрыя стайні. Трэба наладзіць гаспадарку. Як спецыяліст, тата разумеў, што найперш трэба дапамагчы людзям, якія прыехалі разам з ім з Самары, вырашыць пытанне, дзе ім далей жыць, дапамагчы з жыллём, працай.

Не прайшло і паўгода, як усё больш-менш наладзілася. Кіраўніцтва рэспублікі ацаніла арганізацыйныя здольнасці І.Л.Звяровіча. І тату было даручана ўладкаваць былыя панскія маёнткі, што перайшлі ў веданне НКУС (наркамат унутраных спраў). І Дуброўна, Талька, Нявелічы, Хальч сталі саўгасамі дзякуючы арганізацыйнаму таленту майго бацькі. Асабліва складанай і праблемнай была гаспадарка ў Хальчы Веткаўскага раёна.

Усё складвалася найлепшым чынам. Аднак ішоў страшны 1937 год. Мама ўспамінала: *“Аднойчы тата вярнуўся з працы, паклаў газеты на стол і сказаў: “Што творыцца, не разумею”. На вуліцы цямнела, як да нас прыйшла жонка раённага пракурора і сказала, што яе муж падпісаў ордар на арышт таты і ноччу па яго прыедуць. Як перадаў пракурор, можна на маторцы па Сожу, потым па Дняпры з’ехаць ва Украіну, дзе не будуць шукаць. Але Іван не мог пакінуць мяне цяжарную з трыма дзецьмі, тым больш лічыў сябе ні ў чым не вінаватым. Разбяруцца і адпусцяць”.*

Сталі мае бацькі рыхтавацца да прыходу “гасцей”. Заручальныя пярсцёнкі, грошы схавалі ў маё дзіцячае адзенне, сабралі ссабойку, тата напісаў пісьмо старэйшаму сыну – студэнту сельскагаспадарчага тэхнікума ў Мар’інай Горцы, параіў кінуць вучобу і з’ехаць на Данбас, дзе патрэбны шахцёры. Што, дарэчы, Саша і зрабіў.

Затрашчалі дзверы. Вобыск. Мама сядзіць са мною на руках. Усёператрэслі, забралі фотаздымкі, паперы, распаролі матрацы, падушкі, раскідалі адзенне, рассыпалі крупы, муку… І – забралі тату.

Маме стала дрэнна: моцна балеў жывот. Пакуль магла, цярпела. Неяк дайшла да суседа. А іхняя сям’я не спала, бо праз вокны бачыла, што адбываецца ў кватэры Звяровіча.

У мамы – выкідыш. Суседзі забралі мяне, сястра Таня гасцявала ў мамінай мамы пад Мінскам у Лошыцы. Прыехала цётка, якая рашуча сабрала пажыткі, што маглі ўзяць з сабою, і ўсе паехалі да родных у Лошыцу.

Куды забралі тату, ніхто не ведаў, і мама пачала шукаць. Нарэшце далі даведку: у Аршанскай турме. Кожны тыдзень мама ездзіла туды, стаяла ў чэргах, каб перадаць перадачу. Сама ж як жонка “ворага народа” не мела права жыць у Лошыцы, бо не была там прапісана. Пра яе прыезды да дзяцей даведаўся міліцыянер па прозвішчы Мокры, які штовечар прыходзіў, абшукваў усе пакоі, заглядваў пад ложкі, у шафу, на печ. Потым гадзінамі сядзеў у хаце. А мама хавалася ў хляве ці на гарышчы. Аднойчы бабуля не вытрымала, стала плакаць, жадаючы Мокраму перажыць такое ж гора.

І толькі ў 1939 годзе матулі далі дазвол на прапіску. Бедная мая мамачка! Колькі пакут і гора вынесла яна! А яшчэ да 1940 года нічога не ведала пра лёс сына Сашы. На руках у яе дзве дзяўчынкі, якіх трэба карміць, апранаць і ратаваць мужа. Каму толькі яна не пісала, даказваючы, што Іван Звяровіч ні ў чым не вінаваты!

Судзіла тату “тройка”. Як потым ён расказваў, выклікалі, сказалі прысуд і выслалі ў Архангельскую вобласць. Калі (дзякуй Богу!) тата вярнуўся, ён зрэдку, толькі пасля настойлівых пытанняў, дзяліўся ўспамінамі. Аднак і па вельмі скупых ягоных апавяданнях я добра ўяўляю ўсю бесчалавечнасць сталінскага рэжыму, яго здзекі, ілжывасць.

Бацьку прад’явілі стандартныя на той час абвінавачанні: польскі шпіён (ён родам з Заходняй Беларусі), удзельнік антысавецкай змовы (сустракаўся з Чарвяковым), крытыкаваў лозунгі Сталіна і наогул – вораг народа. Дапытвалі суткамі, мяняліся следчыя, білі кулакамі, нагамі, здзекам гэтага двухметровага росту мужчыну, асілка; выбілі зубы, ён страціў слых. Чаго дабіваліся? Каб назваў прозвішчы саўдзельнікаў. Называлі вядомых людзей і патрабавалі падпісаць загадзя напісанае. Вельмі стараўся кат-следчы Волкаў, сапраўдны садыст.

Як тата ехаў у ссылку, то ў адным вагоне ехаў і Волкаў, ужо таксама зняволены. Так было: тыя, хто катаваў, часта аказваліся на месцы зняволеных. Праз дзень на прыпынку, як заўсёды, выносілі памерлых. Сярод іх быў і Волкаў, пэўна, яго знайшла кашчавая і пакараў Бог за ўсе яго здзекі з людзей.

Дарэчы, калі ў “Народнай Волі” былі надрукаваны прозвішчы следчых, якія вялі справы арыштаваных у 1930-х гадах, з датамі іх жыцця, то супраць прозвішча Волкава была толькі дата яго нараджэння. Так вось, ён атрымаў за здзекі з нявінных кару ў студзені 1938 года.

Зімою прывезлі ў баракі, дзе месца на ўсіх не хапала. На нарах спалі па чарзе. У лютыя маразы хадзілі на лесапавал, будавалі баракі. Сярод зняволеных было многа “палітычных”, не прыстасаваных да такой працы. Адзін з іх і параніў тату нагу. Доўга не загойвалася, працаваць немагчыма. А не працуеш – то баланды і вару менш давалі.

Пасля хваробы тата стаў медбратам. Самым страшным для яго было весці ўлік памерлых. Смяротнасць была вялікая. Холад, голад, цяжкая праца, прыніжэнне чалавечай годнасці былі прычынай таму.

А тут з Беларусі прыйшоў жаночы этап, і тату здалося, што сярод папаўнення яго роднейкая Волечка. Некалькі дзён не мог знайсці магчымасць зазірнуць у тыя жаночыя баракі. Нарэшце! Не, не яна! Якое шчасце!

Вайна! Частка зэкаў трапіла ў штрафбаты, толькі “палітыкаў” не бралі. Цяжка было ўявіць пра жыццё сям’і. Пэўна, самым страшным было ведаць пра тое, што ты ні ў чым не вінаваты і таму твае блізкія ў горы, бядуюць, жывуць толькі надзеяй.

Калі тата вярнуўся, то яшчэ некаторы час у яго пад падушкай ляжаў пакецік з атрутай. “Калі прыйдуць ізноў, я жыць больш не хачу!” – тлумачыў ён маці.

Рэабілітацыя! У КДБ упаўнаважаны дастаў яго “справу”, а там – толькі прафсаюзны білет. Ні дыплома, ні пашпарта, ні працоўнай кніжкі, адным словам – нічога. Далі даведку, што прыгавор скасаваны. Столькі гадоў у чалавека забралі! Вярнуўся хворы (артроз, глухата, бяззубы), а жыць трэба пачынаць спачатку.

А дзе ж сын? У КДБ абяцалі, што знойдуць.

Пра лёс брата, Аляксандра Іванавіча Звяровіча, пасля шматлікіх пошукаў я даведалася пасля смерці таты толькі ў 2011 годзе, калі ў інтэрнэце былі выстаўлены архіўныя спіскі. Брат загінуў у 1944 годзе у баі пад Псковам.

Ніколі не забудуся, як тата прасіў у нас прабачэння, што не мог нас гадаваць.

У 1937 годзе былі скрадзены маё дзяцінства, юнацтва. Страшна гучаць словы “Спасибо великому Сталину за наше счастливое детство!”. Колькі праклёнаў я чула ад сваёй бабулі, бо ў 1937 годзе забралі яе старэйшага сына Адама Іосіфавіча Шумскага, а праз хуткі час у турме не ўзялі перадачу – памёр. Ад чаго, дзе пахаваны – ніякіх даведак. Адам Шумскі, адукаваны чалавек, сябраваў з Янкам Купалам, быў першым старшынёй сельсавета, потым калгаса. Забралі здароага і – памёр?

А што значыць быць жонкай “ворага народа”? Наша сям’я перанесла такое гора, пад цяжарам якога праходзіла ўсё жыццё. Здаеш уступныя экзамены на журфак, а цябе не прымаюць: “Ты – дачка ворага”. Адкрыта не гаварылі, але так рабілі.

Тата! На твае моцныя плечы лёг цяжар неймавернага гора. А колькі мог бы ты замест гадоў зняволення прынесці людзям ведаў, дабра! І калі ёсць на свеце боская праўда, справядлівасць, то трэба, каб усе ведалі, праз якія пакуты прайшлі людзі, што былі арыштаваны ў 1930-х гадах. Я ўсім сэрцам за стварэнне культурнага аб’яднання “Вяртанне памяці”, за прапановы па ўшанаванні людзей, якіх называлі “ворагамі народа”. Прапаную ўспомніць усіх пайменна, надрукаваць іх спісы, каб усе ведалі пра іх і, галоўнае, каб такое не паўтарылася.

**Энгаліна Іванаўна ЗВЯРОВІЧ (ЦІХАМІРАВА).**
*в.Шчомысліца Мінскага раёна.*

**P.S.** Дарэчы, прачытаўшы артыкулы спадароў Дразда і Кузняцова пра бальшавіцкі тэрор, я падумала: дзякуй Богу, што я хоць убачыла жывым свайго татачку. А колькі загінула нявінных, пра якіх няма ніякіх звестак! У 1970-х гадах мая стрыечная сястра Тацця на Рыгораўна Пальгунова, юрыст па адукацыі, маёр міліцыі, удзельнічала ў камісіі, якая адбірала справы для архіва, і гаварыла, што працэнтаў 70 з іх знішчылі.

ТРАГЕДЫЯ

## У Полацку 17-гадовая дзяўчына скочыла з 6-га паверха

*Трагедыя адбылася ў мікрараёне «Аэрадром» вечарам 12 сакавіка.*

– *12 сакавіка прыблізна ў 18 гадзін, знаходзячыся ў Полацку ў кватэры знаёмага, 17-гадовая дзяўчына скочыла з акна шостага паверха дзевяціпавярховага дома,* – сказала афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці **Святлана Сахарава.** – *Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў яна памерла ў бальніцы. Паводле папярэдняй інфармацыі, гібель непаўналетняй не звязана з уплывам сацыяльных сетак. Гэтая версія правяралася ў першую чаргу.*

Узбуджана крымінальная справа па ч.2 арт.145 КК (давядзенне да самагубства заведама непаўналетняга).

Гэта ўжо не першы выпадак спробы самагубства ў рэгіёне за апошні час. Напрыканцы лютага 19-гадовы жыхар Наваполацка скочыў з моста ў Заходнюю Дзвіну. Хлопцу ўдалося самастойна выбрацца на бераг. Цяпер ён знаходзіцца ў шпіталі на апаратным жыццезабеспячэнні.

Усё часцей стала з’яўляцца інфармацыя аб так званай групе «Сіні кіт» у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте». Падлеткі атрымліваюць заданні ад куратараў групы, адным з якіх можа быць патрабаванне самагубства. Праваахоўныя органы папулярнасць «групы смерці» ў Беларусі не пацвярджаюць.

**Васіль КОРЗУН.**

СЛЫШАЛИ?

## Климатологи помогут аграрникам

В Беларуси появится Центр климатических исследований. Новая структура создается в Академии наук в составе Института природопользования. Центр будет заниматься проведением научных исследований по целому ряду важных направлений. Например, на заседании Бюро Президиума Академии наук было отмечено, что в настоящее время хозяйства страны ежегодно несут значительный ущерб из-за неблагоприятных погодных условий и климатических изменений. Поэтому одним из главных направлений Центра климатических исследований станет оценка влияния изменения климата на климатически зависимые отрасли экономики и разработка рекомендаций по их адаптации.

Научным руководителем Центра климатических исследований стал известный климатолог, главный научный сотрудник Института природопользования НАН Беларуси академик **Владимир Логинов**.

МАЗАІКА

## Брэсцкае «Дынама» – новы канкурэнт БАТЭ?

*У гэтым сезоне ў каманды “напалеонаўскія” планы.*

У мінулым годзе ў клуба з’явіўся новы партнёр – у склад заснавальнікаў увайшла дубайская кампанія “Охра Оверсіз” (ёй належыць кантрольны пакет акцый).

Кіраўніцтва брэсцкага “Дынама” кажа, што часы, калі ў клуба не было магчымасці нават выплаціць заробкі футбалістам, засталіся ў мінулым, а таму задача на новы сезон – уваходжанне ў тройку прызёраў.

## «Чорны» спіс

*Апублікаваны спіс прыцягнутых да адказнасці за дамоўленыя матчы.*

Беларуская федэрацыя футбола атрымала адпаведныя матэрыялы са Следчага камітэта. Як інфармуе прэс-служба федэрацыі, справа аб маніпуляцыі спартыўнымі вынікамі закранула 5 матчаў чэмпіянату краіны вышэйшай і першай ліг.

Былі названы 26 чалавек, якія ў той ці іншай ступені маюць дачыненне да супрацьпраўных дзеянняў. У спісе больш за ўсё прадстаўнікоў «Іслачы» – Макоўскі, Лебедзеў, Цішкевіч, Парываеў, Папуш, Рыжко, Алумона, Дзенісевіч, Макар. З «Ашмянаў-БГУФК» пяць чалавек – Жалудак, Палазнік, Саковіч, Гудзель, Жбанкоў. З «Луча» 7 чалавек – Сыраквашка, Шуманаў, Жураўлёў, Напорка, Мядзведзеў, Тарлікоўскі, Карпоўскі. З «Граніту» – Гаўрылаў. Названы таксама былы ігрок «Смаргоні» Крот, былы футбольны арбітр Савіцкі.

КОНКУРС

## Апрануць сцюардэсу…

Авіякампанія «Белавія» абвясціла конкурс на распрацоўку дызайну формы лётнага экіпажа авіякампаніі. Конкурс будзе доўжыцца да 14 красавіка 2017 года. Пасля прафесійнае журы адбярэ матэрыялы для публікацыі на tut.by, дзе пройдзе адкрытае інтэрнэт-галасаванне. Пераможцу конкурсу прадстаўнікі авіякампаніі вызначаць са складу ўдзельнікаў, якія атрымалі найбольшую колькасць галасоў.

Пераможца атрымае два квіткі па маршруце Мінск–Мілан–Мінск (перыяд падарожжа – верасень 2017 года), а таксама два запрашальныя квіткі на Тыдзень моды ў Мілане.



Народная Воля http://www.nv-online.info
14 САКАВІКА 2017 г.

ЗАКУЛІССЕ

## Шчасце Вікторыі Азаранка

*Былая першая ракетка свету гадуе маленькага сына і кажа, што пакуль гэта яе “самая важкая перамога”.*








### Менш слоў – больш справы

Вядомая тэнісістка **Вікторыя Азаранка** не з тых людзей, каму, як кажуць, не дай паесці, а дай пагаварыць. Маю на ўвазе яе ўзаемаадносіны з беларускімі журналістамі, якія і так, і гэтак шукалі падыходы да спартсменкі, але тая падчас кароткіх візітаў у Мінск фармат гутаркі “адзін на адзін” у асноўным проста ігнаравала.

Таксама многія памятаюць сітуацыю, калі два гады таму Азаранка падчас Адкрытага чэмпіянату Аўстраліі адмовіла ў інтэрв’ю журналісту беларускага спартыўнага выдання, які пераляцеў праз акіян, каб патрапіць на турнір і пагутарыць з суайчынніцай, але атрымаў ад варот паварот.

Пазней на сваёй старонцы ў сацыяльных сетках Вікторыя кінула камень у бок прадстаўніка СМІ: *“Ваша прафесійная непадрыхтаванасць застаецца за вамі. Я люблю цікавыя інтэрв’ю, і гутаркі пра мой любімы спорт, а не пра дзіцячы сад, семкі і гэтак далей”.*

Тым больш складана было дачакацца журналістам ад Азаранка, каб тая распавяла пра ўласнае жыццё. Хаця ў век інтэрнэту і схаваць нешта было даволі складана…

### Сяброўства з сынам зоркі

З **Сяргеем Бубкам** – сынам праслаўленага ўкраінскага спартсмена – Вікторыя пачала сябраваць у 2010 годзе. У той час беларуска ўжо ўваходзіла ў дзясятку лепшых тэнісістак свету, так што назваць яе маладой і перспектыўнай было не зусім карэктна. А вось 23-гадовы ўкраінскі тэнісіст Сяргей Бубка зорак з неба не хапаў – “боўтаўся” ў рэйтынгу паміж другой і трэцяй сотняй.

У Кіеве Сяргей пазнаёміў Віку са сваім славутым бацькам *(і раней і зараз ён узначальвае Нацыянальны алімпійскі камітэт Украіны.* – **Аўт**.), той шмат расказваў сяброўцы сына, як сам дасягаў поспеху і перамог.

*“Іх сям’я вельмі дапамагае Вікторы з размяшчэннем у Манака, таму што яны таксама рэзідэнты гэтай краіны,* – распавядала ў 2012 годзе “Народнай Волі” **Ала Азаранка** – маці тэнісісткі. – *Дарэчы, з Сярожам пазнаёміліся яшчэ да таго, як ён з дачкой пачаў сустракацца. Ён таксама займаецца тэнісам, яны практычна аднаго ўзросту і з малых гадоў гулялі на адных і тых жа спаборніцтвах. Тады мы з яго бацькамі і пазнаёміліся. Бацька Сяргея, як вядома, у мінулым вядомы скакун з шастом. Зараз ён віцэ-прэзідэнт Міжнароднага алімпійскага камітэта, мама – былая гімнастка. Мы сустракаліся, у Дубаі не так даўно разам былі. А што тычыцца вяселля?.. Як кажуць, калі будзе праблема, тады пачнём яе вырашаць”.*

Тым часам многія яшчэ тады не верылі, што адносіны двух маладых людзей могуць перарасці ў нешта сур’ёзнае.

*“Няма нічога незвычайнага ў тым, што пара развіталася пасля таго, як Віка здзейсніла свой касмічны ўзлёт у спартыўнай кар’еры”,* – пісалі некаторыя каментатары, даючы зразумець, што новай зорцы сусветнага тэніса, магчыма, ужо было нецікава з бесперспектыўным тэнісістам.

### Святое месца пустым не бывае

І тут на гарызонце асабістага жыцця Вікторыі Азаранка з’яўляецца яшчэ адна зорка – далёка не спартыўнага кшталту. Амерыканскі рэпер **Рэдфу** хаця і не меў гучных перамог на кортах, але лічыўся нястомным тусоўшчыкам і ў пэўных колах меў немалы аўтарытэт.

Спявак пачаў наведваць матчы з удзелам Вікторыі, эмацыянальна падтрымліваў яе на трыбунах. У сацыяльных сетках з’явіліся іх сумесныя фотаздымкі з розных тусовак і месцаў адпачынку, у 2013 годзе Азаранка знялася ў адным з кліпаў Рэдфу.

Пайшлі размовы нават пра хуткае вяселле, але гэта, відаць, не ўваходзіла ў планы самога тусоўшчыка.

*“Вяселле – гэта вельмі важны дзень у жыцці мужчыны,* – казаў ён і ўдакладняў: – *Жыццё халасцяка заканчваецца назаўжды. Мы з Вікай хутка ажэнімся? Не, пакуль не! Гэта вельмі сур’ёзны крок”.*

У выніку так і аказалася, што гэта таксама быў “не наш кліент”. Пасля таго як іх шляхі разышліся, тэнісістка перажывала і нават не ўтойвала гэтага: *“Маё сэрца разбіта. Па-сапраўднаму. Я не баюся прызнавацца ў гэтым. Такое жыццё. Самае складанае – прызнаць, што ты не ў парадку… Я была ў дэпрэсіі…”*

А вось Рэдфу з гэтай нагоды выказаўся ў сваім стылі – досыць экстравагантна: *“Я хачу крыягенам замарозіць каханне, пакласці яго ў лабараторыю і вярнуцца да яе, калі ўсё будзе арганізавана, і я змагу прызначыць другога капітана карабля”.*

### Хто вы, містар Макег?

Як паказаў час, беларуская тэнісістка была не згодна з тым, каб яе каханне “замарозілі крыягенам і паклалі ў лабараторыю”. Траўмы і душэўныя перажыванні на нейкі час адкінулі Азаранку ў цень грамадскага інтарэсу, аднак апошнім часам яна стала з’яўляцца на публіцы з нейкім **Білам Макегам.**

Журналісты высветлілі, што гэты малады чалавек не вельмі публічная асоба, але ў старэйшых класах ён вучыўся ў каталіцкай школе, а затым закончыў Місурыйскі ўніверсітэт. Сам – з Сент-Луіса, затым жыў у Каламбіі.

20 снежня мінулага года Вікторыя Азаранка стала мамай – яна нарадзіла сына, якога назвалі Леа Аляксандрам. У сацыяльных сетках спартсменка змяшчае шмат фотаздымкаў, на якіх хлопчыка трымае на руках і шчаслівы бацька – той самы Біл Макег.

Дарэчы, высветлілася, што ў свой час хлопец займаўся ў Амерыцы хакеем, але з-за траўмы так і не стаў прафесійным хакеістам. А вось у Мінску ён змог праявіць свае старыя таленты: Біл падчас наведвання беларускай сталіцы ў мінулым годзе паспеў згуляць некалькі матчаў за клуб “Драконы”, які выступае ў аматарскай лізе.

Цяжка спргназаваць, як будуць далей складвацца адносіны гэтай пары, але няхай у іх усё будзе добра. Тым больш што ў жыцці абодвух ужо з’явіўся чалавечак, дзеля якога варта жыць і кахаць…

**Алесь СІВЫ.**

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ



## Зялёная вішня

Словы і музыка народныя

Зялёная вішня
З-пад кораня выйшла.
Аддала мяне маці,
Дзе я непрывычна. *2 разы*

Ты думаеш, мама,
Што я тут пірую.
Прыйдзі, падзівіся,
Як я тут гарую! *2 разы*

Ты думаеш, мама,
Што я тут не плачу.
За горкімі слязамі
Я свету не бачу. *2 разы*

Успомні мяне, мама,
Хоць раз у нядзелю.
А я цябе, мама,
Сцелючы пасцелю. *2 разы*

Успомні мяне, мама,
Хоць раз у аўторак.
А я цябе, мама,
На дзень разоў сорак. *2 разы*

Успомні мяне, мама,
Хоць раз у суботу.
А я цябе, мама,
Йдучы на работу. *2 разы*

Як выйду на ганак
Ды крыкну да дому:
– Вары, маці, вячэру
І на маю долю!.. *2 разы*

– Варыла, варыла –
Ні многа, ні трошкі…
Няма табе, доню,
Ні міскі, ні ложкі. *2 разы*

Бо міску зламалі,
А ложку згубіла…
Ідзі туды, доню,
Каго ты любіла! *2 разы*

РЭГІЁН

## «Нафтан» адмовіўся спансіраваць футбольны клуб

*Гэта звязана з фінансавым становішчам нафтавага завода ў Наваполацку.*

– *Ілюзій, што завод будзе нас фінансаваць, у нас не было,* – сказаў галоўны трэнер «Нафтана» **Алег Сідарэнка**. – *Да пачатку чэмпіянату засталося тры тыдні, думаю, за гэты час усё стане на свае месцы. Цяпер пытанне вырашаецца на больш высокім узроўні. Гаворка ідзе пра канцэрн «Белнафтахім».*

Як неаднаразова паведамляла «Народная Воля», эканамічныя цяжкасці на НПЗ паўсталі з-за скарачэння паставак нафты з Расіі. У канцы мінулага тыдня стала вядома, што завод не будзе спансіраваць футбольны клуб у 2017 годзе. Пакуль на заводзе каментаваць сітуацыю не сталі.

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

НЕСТАНДАРТ



## Екатерина ШИПУНОВА: «Без гор у меня начинается депрессия»

*Екатерина ШИПУНОВА из Витебска увлекается экстремальным туризмом с детства. На счету у девушки десятки горных вершин и перевалов. Почему людей тянет на высоту? Как питаются в горах? Кому лучше не подниматься на вершину? Об этом и многом другом Екатерина рассказала «Народной Воле».*



### Уважение к горам

**– Катя, кто вы по профессии?**

– Преподаватель английского и немецкого языков. Окончила университет имени Машерова в Витебске. Только учитель – это строгая дама с гулькой на голове, а я постоянно шутила с детьми и ходила вместе с ними кататься зимой с горки. Поэтому пять лет я была именно «училкой». А потом решила, что хочу посмотреть мир. Планировала отработать учебный год и месяцев на 8–9 отправиться путешествовать.

По стечению обстоятельств (или это судьба) мое желание в скором времени осуществилось: появилась возможность сменить работу. Я стала руководителем туристических групп в поездках по Европе. Это экскурсионные туры, где приобщаешься к культуре, истории, традициям европейских государств.

**– Давно увлекаетесь горным туризмом?**

– Для меня это не работа и, надеюсь, никогда ей не станет. Горный туризм – серьезное хобби, которое красной нитью проходит через мою жизнь. С братом мы воспитывались согласно принципам туристского товарищества.

Вперемежку со сказками слушали истории о горах и путешествиях. А колыбельные пелись вместе с песнями Визбора и Окуджавы.

В 6 лет родители взяли меня в Крым в пеший поход, потом были и другие путешествия. Мы лазали по скалам, спускались в пещеры, одним словом, весело и интересно проводили время. В 14 лет была первая горная «двойка» (категория трудности) на Кавказе. И после этого без кавказских гор не обходился практически ни один год.

**– Насколько это дорогое увлечение?**

– Горный туризм бывает разным. Им занимаются молодые пижоны в пуховиках за 800 евро и с палатками за 1000. И опытные «советские» инженеры, прошедшие труднодоступные маршруты с брезентовыми палатками и с рюкзаками «Ермак».

Что касается денег, то можно обойтись и малыми средствами, особенно новичкам в легких походах.

**– С кем вы путешествуете в команде?**

– Раньше – с родителями. Сейчас чаще всего с товарищами и единомышленниками. Я сама организовываю походы, поэтому у меня есть право выбора желающих. Обычно странные люди отсеиваются еще на стадии сборов.

Главный критерий для меня – здоровье, хотя его не всегда можно проверить, поэтому приходится полагаться на сознательность человека. И уважительное отношение к горам. Еще не люблю зануд.

**– Люди, которые отправляются в горы, обращаются в страховые фирмы?**

– К услугам страховщиков прибегаем редко: у нас это не принято. Да и как-то привыкли уже рассчитывать в горах только на свои силы и силы товарищей.

Но, отправляясь в далекие маршруты (например, на Памир), мы страховки все же оформляем. Желательно их иметь, особенно когда не уверен в людях, с которыми в пути.

Вообще, горный туризм не предполагает восхождений на вершины. Это прерогатива альпинистов. Горники поднимаются на перевалы. Да и вершина вершине рознь. Одна требует только выносливости, другой нужны навыки работы со снаряжением: веревки, кошки (шипы на ботинках) и так далее. В любом случае каждая вершина требует выносливости и уважения.

**– Как происходит подготовка к путешествию?**

– Это очень важный момент. Готовиться нужно физически, психологически и организационно. Физически все понятно: тренируй выносливость и силу. Психологически нужно готовить себя к сложностям, форс-мажорным ситуациям, учиться любить горы.

А вот организация похода дело непростое. Оформление пропусков в погранзону (почти все горы находятся на приграничной территории), регистрация в МЧС, покупка билетов, продуктов, медицинских препаратов, газа и так далее занимают немало времени.

**– Сколько километров команда должна преодолеть за день?**

– Километры не та величина, в которой измеряется путь в горах, так как за день можно пройти 30 километров, а можно всего лишь один. Все зависит от рельефа: сегодня ты идешь по тропе в долине, а завтра – по разорванному леднику. Поэтому мы измеряем все в часах: ходовых часов в день обычно 6–8.

**– Что находится в вашем рюкзаке?**

– Есть такая шутка: новичок не может впихнуть свои вещи в гигантский рюкзак, а матерому туристу хватает и небольшого портфельчика. Если серьезно, то дело в опыте. У меня в рюкзаке нет вещей, которыми в походе я ни разу не воспользуюсь. Есть личное снаряжение: обвязка, карабины, спальник. Общественное снаряжение: веревки, палатки, кастрюли.

**– Как питаются в горах?**

– Дежурные готовят на газовых горелках. Продукты закупаем, как правило, дома. Едим крупу (по 60 граммов на человека за прием пищи), макароны. Сыр, колбаса, сублимированное мясо, халва, печенье, сухофрукты, конфеты, шоколад.

### Увлечение не для всех

**– Катя, какова география ваших путешествий?**

– Крым, Кавказ, Алтай, Памир, Тянь-Шань, Гималаи. В среднем поход длится две недели, но бывают и исключения: чем сложнее маршрут, тем больше времени он требует.

**– Какие меры безопасности необходимо соблюдать в горах?**

– Самое главное – постепенность и последовательность. Сначала нужно научиться, а потом уже лезть. Не надо идти на сложные ледники, не умея ходить в кошках. Не стоит подниматься на «пятитысячник», когда организму не знакома высота в 3 тысячи метров.

Нужно быть уверенным в своих товарищах. В группе должен быть человек, который умеет оказывать первую медицинскую помощь. Важно понимать, что в горах несешь ответственность не только за себя, но и за группу. Ты зависишь от команды, так же как и она от тебя.

Надежные товарищи в горном туризме – залог безопасности и успеха.

**– Случаи неадекватного поведения или паники бывали?**

– Основная задача руководителя группы – своим авторитетом и уверенностью подавить панику в самом начале. Она опасна и может привести к ужасным последствиям. С неадекватным поведением не сталкивалась. Стараюсь объяснить людям, что нас ждет, еще на равнине.

**– Насколько вообще трудно найти взаимопонимание в горах?**

– Общение в горах важно. Взаимопонимание достигается быстро или не достигается вообще. В таких случаях стараемся пройти с наименьшими эмоциональными потерями и больше не сотрудничаем.

**– Как часто ощущается недостаток кислорода? Читал, что из-за перепадов давления у человека может остановиться сердце, даже если оно ранее не беспокоило.**

– Все очень индивидуально. Сегодня у тебя хорошее самочувствие на высоте в пять тысяч метров, а завтра раскалывается голова на трех. Есть общепринятые высоты, на которых начинает проявляться горная болезнь. Для Кавказа это приблизительно 3 тысячи метров, для Гималаев – 4500.

Чем южнее горы, тем легче переносится высота.

К сожалению, да, сердце может остановиться из-за перепадов. Наблюдала такое в 2015 году на Эльбрусе. Спасатели снимали с горы парня, которому должен был исполниться 31 год. Но, с другой стороны, это может произойти и на равнине, на пробежке или в ванной. Нельзя говорить, что виноваты горы. Однако если есть проблемы со здоровьем, то, конечно, лучше не рисковать.

**– Не страшно путешествовать по горам, зная истории о ледниках, перевале Дятлова?**

– В последнее время часто спрашивают про перевал Дятлова. Этот случай мог произойти в лесу или в поле. Снежный человек или ужасные ледниковые монстры тут ни при чем. В этой истории больше мистики, чем реальных фактов.

Сход лавин, камнепады, обвалы – это другое дело. Для этого и нужен опытный человек в группе, чтобы оценить ситуацию и принять меры безопасности. Горы всегда говорят о приближающейся беде! Важно их услышать, но это приходит только с опытом.

**– Некоторых людей в горы тянет желание хоть на время сбежать от городского ритма жизни. Какая мотивация у вас?**

– Очиститься. Слишком много информационной шелухи нас окружает в городах. Мы не слышим себя. А в горах ты наедине со своими мыслями и вечностью: с тем, что было до тебя и останется потом. Там понимаешь, что действительно важно в жизни. Возможно, сейчас это уже привычка, без которой осенью у меня начинается депрессия *(улыбается).*

**– Катя, а куда следующий поход? Меня возьмете?**

– В апреле планируем выдвинуться в Непал. Конечно, возьмем. Собирайтесь. *(Смеется.)*

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**

